Гродна
№12 (518),
16 чэрвеня 2019

www.slowo.grodnensis.by

Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ




# БОЖАЕ ЦЕЛА, УКРЫТАЕ Ў АЛТАРАХ

**Урачыстасць Найсвяцейшага Цела і Крыві Езуса Хрыста – адно з галоўных каталіцкіх свят. І хоць кансэкрацыя суправаджае вернікаў з самага пачатку хрысціянства, спатрэбілася шмат часу, каб Касцёл стаў асаблівым чынам ушаноўваць вялікую таямніцу веры.**


● працяг на с. 4


**“Эўхарыстыя з'яўляецца вяршыняй Божай справы збаўлення”. Папа Францішак**

# Разважанні з Божым словам

## Урачыстасць Найсвяцейшай Тройцы

**Ян 16, 12–15**

Езус сказаў сваім вучням: "Яшчэ шмат чаго маю сказаць вам, але цяпер вам гэтага не знесці. Калі ж прыйдзе Ён, Дух праўды, навучыць вас усёй праўдзе. Бо не ад сябе будзе прамаўляць, а будзе казаць вам усё, што пачуў, і будучыню абвесціць вам. Ён уславіць Мяне, бо ад Майго возьме і абвесціць вам. Усё, што мае Айцец, гэта Маё. Таму Я сказаў вам, што з Майго возьме і абвесціць вам".

### Супрацоўнічаць са Святой Тройцай

Хрыстос у Евангеллі неаднойчы гаворыць аб узаемнай любові паміж 3-ма Асобамі Божымі: Айцец любіць Сына, Сын любіць Айца, а Святы Дух нібыта з'яўляецца подыхам гэтай узаемнай любові. Аднак поўнасцю зразумець адзносіны, якія пануюць у Богу ў Тройцы Адзіным, тут, на зямлі, мы не здолеем, таму што чалавечы розум абмежаваны. Тым не менш, ведаем столькі, колькі патрэбна для збаўлення: тое, што павінны зрабіць з нашых душ жыллё для Усемагутнага, жыць у стане асвячаючай ласкі і супрацоўнічаць з Панам.

Гэтае супрацоўніцтва заключаецца ў далучэнні да дзейнасці Тройцы з любові да Яе і Яе справы. Бог Айцец стварыў чалавека, Бог Сын збавіў, а Святы Дух асвятляе і асвячае. Супольна з усемагутным Айцом праз старанні, сваю працу і намаганні мы можам далей ствараць свет, паколькі гэтае тварэнне будзе трываць да канца часоў. Супольна з Хрыстом праз добраахвотнае з'яднанне ўласнага крыжа і цярпення з Ягонымі мы можам збаўляць – як сябе, так і іншых. Супольна са Святым Духам праз словы і ўчынкі, малітву, а найперш праз прыклад уласнага жыцця мы можам асвятляць і асвячаць.

Праслаўляйма Бога ў Святой Тройцы Адзінага і дзякуйма Яму за ўсе атрыманыя ласкі і дары!

**Ці супрацоўнічаю я з Богам у Святой Тройцы Адзіным?**

***Як часта пачынаю і заканчваю розныя дзеянні на працягу дня словамі: "У імя Айца і Сына, і Святога Духа"?***

## XII звычайная нядзеля

**Лк 9, 18–24**

Калі Езус маліўся ў самоце, вучні далучыліся да Яго. І спытаўся ў іх: "Кім лічыць Мяне народ?". Яны сказалі ў адказ: "Янам Хрысціцелем, іншыя – Іллёю, некаторыя ж кажуць, што адзін з даўніх пракодаў уваскрос". Ён спытаўся ў іх: "А вы кім лічыце Мяне?". І адказаў Пётр: "Месіяй Божым". Але Ён строга загадаў ім нікому не казаць пра гэта, кажучы, што Сын Чалавечы павінен выцерпець шмат, што адцураюцца Яго старэйшыны, першасвятары і кніжнікі, і будзе забіты, і на трэці дзень уваскрэсне. Усім жа сказаў: "Калі хто хоча ісці за Мною, няхай адрачэцца ад самога сябе, штодня бярэ крыж свой і ідзе за Мною. Бо, хто хоча ўратаваць жыццё сваё, загубіць яго; а хто загубіць жыццё сваё дзеля Мяне, той уратуе яго".

### Спадарожнічаць Хрысту

Пад канец сваёй дзейнасці Хрыстос задае апосталам 2 – на першы погляд лёгкія – пытанні: "Кім лічыць Мяне народ?" і "Вы кім лічыце Мяне?". Тым самым Ён арганізуе вучням пэўны фінальны тэст. Наколькі першае пытанне з'яўляецца праверкай ведання, дзе адказ мае характар пераказу, настолькі другое датычыць веры і патрабуе індывідуальнага абдумвання: не дастаткова назваць пачутыя меркаванні, неабходна падключыць усе пачуцці, каб адказаць спачатку сабе самому.

Не дзіўна, што толькі 1 з 12-ці апосталаў адважваецца – магчыма, пасля доўгіх разважанняў – даць адказ. Аднак, нягледзячы на тое, што ён быў правільны, "экзамен" не скончыўся. Пасля тэарэтычнай часткі надышла практычная, што заключалася ў прыняцці рашэння: пайсці за Збаўцам, рызыкуючы жыццём, ці вярнуцца да пакінутых раней абавязкаў у свеце.

Хрысціянін павінен штодзённа браць свой крыж і ісці за Езусам, павінен спадарожнічаць Настаўніку таксама ў цярпенні. Дарога жыцця кожнага чалавека, незалежна ад яго волі, заўсёды вядзе праз Кальварыю.

**Кім для мяне з'яўляецца Хрыстос?**

**Ці спадарожнічаю Збаўцу ў Яго цярпенні?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Госць у нашым доме

*Так ужо павялося ў жыцці, што нас пастаянна нехта адведвае. Часам чуем званок у дзверы, часам – стук, а здараецца, што і голасам госць абвяшчае аб сваім прыходзе. Рэагуем па-рознаму – у залежнасці ад таго, хто прыходзіць. Інакш вітаем паштальёна, інакш цыганку, якая хоча штосьці прадаць, інакш суседку, што прыносіць вязанку плётак, інакш сваякоў, якіх не бачылі ўжо некалькі гадоў...*

Ва ўрачыстасць Найсвяцейшага Цела і Крыві Пана ў нашыя дамы стукаецца сам Хрыстос. Выходзіць з касцёла, дзе жыве ў табернаклі, праходзіць вуліцамі, па якіх крочым кожны дзень, і ўсклікае: "Я хачу ведаць, дзе і як вы жывеце, аб чым Я павінен папрасіць Айца для вас". Менавіта так можна самым простым чынам перадаць глыбокі сэнс свята Божага Цела.

Наколькі ж актуальны заклік св. Яна Паўла II: "Не бойцеся, адкрыйце дзверы Хрысту"! Збаўца заўсёды хоча ад нас чагосьці канкрэтнага. Часам прагне паяднання ў сям'і, часам чакае, каб дапамаглі суседзям, памаліліся за памерлых... Аднак першым Яго жаданнем нязменна з'яўляецца жаданне пасяліцца ў людскім сэрцы.

Урачыстасць Найсвяцейшага Цела і Крыві Пана – гэта дзень праслаўлення Эўхарыстыі, цудоўнага дару прабывання Езуса сярод нас пад постацямі хлеба і віна. Нягледзячы на тое, што вачыма мы бачым толькі маленькі кавалачак белага хлеба, невялікую Гостыю, якая змешчана ў манстранцыі, у сэрцы стала паўтараем: гэта Пан мой і Бог мой! Той самы Езус, які навучаў тлумы і чыніў цуды, той самы, якога прыбілі да крыжа, той самы, які на 3-ці дзень уваскрос – Божы Сын, Месія, Адкупіцель.

Свята Божага Цела – гэта таксама дзень удзячнасці Хрысту за спажытак для нашых душ. Кожны раз, калі святар паўтарае словы Езуса "Гэта Маё Цела! Гэта Мая Кроў!", робіць так, каб мы жывіліся імі кожны дзень. "Хто спажывае Маё Цела і п'е Маю Кроў, мае жыццё вечнае" (Ян 6, 54). Прынцыпе ў сэрца Хрыстовага Цела гарантуе вечнае жыццё: той, хто памірае ў стане асвячаючай ласкі, можа быць упэўнены ў сваім збаўленні.

Варта нястомна прасіць Пана аб умацаванні нашай веры, паколькі без яе не мае сэнсу не толькі ўрачыстасць Божага Цела, але і кожная св. Імша.

**Дарагія Чытачы!**

Заахвочваю Вас прыняць удзел у эўхарыстычнай працэсіі – вялікай таямніцы нашай веры, каб у чарговы раз быць на трапезе ў Вячэрніку разам з Настаўнікам і апосталамі. Прымем праўду аб тым, што сам Бог прыходзіць туды, дзе наш дом, каб быць побач!

# Жыць Евангеллем

## Першы Сінод Гродзенскай дыяцэзіі



# Сінадальная камісія па справах місій

Касцёл па сваёй прыродзе з'яўляецца місійным, бо бярэ пачатак з місіі Сына і Святога Духа, згодна з задумай Бога Айца. Таму, будучы паслухмяным наказу Заснавальніка, абвяшчае Яго Евангелле ўсім людзям, каб маглі дайсці да дасягнення збаўчай мэты – вечнага жыцця. Перадача Добрай Навіны ўсяму стварэнню – "гэта не нешта такое, што Касцёл мог бы па жаданні альбо выконваць, альбо не выконваць, але заданне і абавязак, ускладзеныя на яго Панам Езусам, каб людзі маглі верыць і атрымаць збаўленне" (Павел VI, Evangelii nuntiandi).

Місійная дзейнасць аднаўляе Касцёл, умацоўвае веру, энтузіязм і хрысціянскую тоеснасць, даючы жыццю новае абгрунтаванне. Таму яна з'яўляецца адным з ключавых элементаў душпастырскай дзейнасці як лакальнага, так і Паўсюднага Касцёла.

Сінадальная камісія па справах місій імкнецца выпрацаваць адзіную сістэму "прасоўвання" місій у дыяцэзіі, што павінна прывесці да росту місійнай свядомасці сярод дыяцэзіян, паглыблення місійнай духоўнасці, абуджэння місійных пакліканняў, уцягнутасці ў дапамогу місіянерам, і, як вынік, ажыўлення парафіяльных супольнасцей.

Члены Камісіі падкрэсліваюць, што ў фарміраванні місійнай свядомасці вернікаў асноўную функцыю павінна выконваць катэхетычная паслуга. Яна мусіць ахопліваць правільную перадачу вучэння Касцёла аб першасным значэнні місій у яго дзейнасці, паказваць місійную дзейнасць мясцовага Касцёла. Заснаванне і развіццё ўжо існуючых у парафіях місійных колаў – цудоўная магчымасць наблізіць абавязак дзялення сваёй верай з тымі, хто яшчэ не ведае Евангелля, хто шукае дарогу да Бога.

Заступніцай місій была абрана св. Тэрэза ад Дзіцятка Езус, таму што сваёй малітвай яна нястомна падтрымлівала місіянераў, нягледзячы на тое, што была закрыта ў кармэліцкім кляштары. Так як справа евангелізацыі з'яўляецца асноўным заданнем Божага люду, мы таксама павінны далучацца да місійнай працы, прапанаванай Касцёлам. Усе вызнаўцы Хрыста атрымалі тое самае заданне: "навучаць усе народы" (параўн. Мц 28, 18–20), "ісці па ўсім свеце" (параўн. Мк 16, 15–18) "ажно да краю зямлі" (параўн. Дз 1, 8). А Пан будзе нам спадарожнічаць!

Сінадальная камісія падкрэслівае, што кожны хрысціянін можа далучыцца да місійнай дзейнасці Касцёла. Пры тым варта ўсведамляць, што такім чынам далучаемся да вялікага Божага дзеяння, што гэта Хрыстос заклікае нас як сваіх самых блізкіх супрацоўнікаў.

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Праз пілігрымку да святасці

**Калі святыня – гэта месца малітвы, то пілігрымка – гэта шлях малітвы. На ім паломнікі ажыўляюць сваю веру.**



У пілігрымку ідуць для таго, каб перапрасіць за свае грахі, вымаліць у Бога патрэбныя ласкі (здароўе, нараджэнне дзіцяці і г. д.) або падзякаваць за атрыманыя (добрае заканчэнне навучальнага года і здачу экзаменаў, сесій, вызваленне ад алкагалізму, наркаманіі і інш.). Людзі вырушаюць у дарогу да святых месцаў таксама з жаданнем асвяціць сябе т. зв. шляхам навяртання, галоўнае ў якім – стан пакуты. Кожная пілігрымка з'яўляецца таксама "перавядзеннем дыхання" і перапынкам ад паўсядзённай манатоннасці, магчымасцю праявіць хрысціянскае братэрства. Акрамя ўсяго, пілігрымка – гэта акт праслаўлення Бога.

Паломніцтва як праява рэлігійнасці вядома ўжо здаўна, з часоў старажытнага Егіпта, Грэцыі, Рыма. У культурах Блізкага Усходу існавалі спецыяльныя дні, у якія вернікі здзяйснялі пілігрымкі. Традыцыя хрысціянскіх паломніцтваў бярэ пачатак, верагодна, каля IV стагоддзя. Рукапіс "Itinerarium Burdigalense", датаваны 333 годам, з'яўляецца самым старэйшым апісаннем паломніцкага шляху. Ананімны аўтар вандраваў у сённяшнюю Святую Зямлю.

Калі хтосьці лічыць, што пілігрымкі зараз "не модныя", моцна памыляецца. Сёння шматлікая колькасць людзей з цікавасцю вырушае ў шлях, падчас якога можа духоўна ўзбагаціцца. Пешшу, веласіпедам, на аўтобусе, аўтамабілі... Вернікі не баяцца цяжкасцей – вызначаюцца з інтэнцыяй і, узрушаныя, накіроўваюцца ў святыя месцы.

Пілігрымка можа быць як калектыўнай, так і індывідуальнай. Як правіла, яна бярэ пачатак у парафіяльнай святыні ці ў іншым месцы. Распачынаецца св. Імшой, адной з частак Літургіі Гадзін ці іншай малітвай, якую завяршае спецыяльнае бласлаўленне святара. У дарозе пілігрымы моляцца, спяваюць рэлігійныя песні, спыняюцца перад святынямі, якія знаходзяцца на паломніцкай дарозе. Светачам, ежай і сілай на гэтым шляху з'яўляецца Божае слова. Кульмінацыйным момантам пілігрымкі становіцца сакрамант пакаяння. Завяршаецца шлях малітвамі асаблівай формы: падзякі, праслаўлення, просьбы аб заступніцтве праз святых.

Некаторыя вернікі яшчэ доўгі час жывуць успамінамі аб пілігрымцы. Пра яе нагадваюць каляровыя шалікі, сертыфікаты або эмблемы ўдзельнікаў, карты паломніка. Многія прывозяць сувеніры з выявай святыні, куды былі пракладзены шлях. Галоўным, да чаго звяртаецца сэрца, з'яўляецца духоўны плён, здабыты ў дарозе.

Наколькі добра быў выкарыстаны час пілігрымкі, заўсёды залежыць, у першую чаргу, ад самога чалавека, яго настрою, уцягнутасці, самаарганізацыі. Немалаважную ролю ў гэтым адыгрывае і план паломніцтва, вызначаныя мерапрыемствы. Калі пілігрымка мела рэальны характар малітвы, то вернік робіць пастанову аб перамене свайго жыцця, натхнёны думкай, што ў наступны раз прыйдзе зноў, прывядзе з сабой сваякоў, сяброў, знаёмых. І гэта першы і самы верны паказчык таго, што пілігрымка прайшла "на ўзроўні". Святыя месцы, насамрэч, тады і жывуць, калі ў іх прыходзяць пілігрымы. Хваля паломнікаў нарастае, калі там адбываюцца цуды.




*Некалькі гадоў таму ў мяне вявіліся праблемы са здароўем: знайшла на целе пухліну ў выглядзе цвёрдай гарошыны. Усе раілі звярнуцца да ўрачоў, але я вырашыла дачакацца ліпеня і адправіцца ў паломніцтва да Маці Божай Тракельскай. Ішла з адной толькі думкай аб ацаленні.*

*Усю дарогу не выпускала ружанец з рук. Ужо ў самім санктуарыі я абышла абраз Маці Божай і прысела ў калідоры. Раптам мне зрабілася дрэнна. Я пабялела, кідала то ў жар, то ў холад. Прыняла лякарства і сядзела ўсю Імшу. А калі надышоў момант прыняцця Камуніі, я адчула нязвыклую лёгкасць.*

*Па прыездзе дадому не знайшла ніякай пухліны. І да сёння адчуваю сябе добра. Упэўнена, гэта Маці Божая ацаліла мяне!*

***Яніна***

*У красавіку 2016 года ў мяне выявілі рак малочнай залозы. Сваёй сям'і я сказала, што буду змагацца з гэтай каварнай хваробай і верыць. Аднак, як усякага чалавека, мяне апаноўвалі розныя думкі. Часам сумнявалася ў тым, што буду аздароўлена. Сябар нашай сям'і кс. Артур падбадзёрваў мяне, кажучы: "Пані Ганна, галоўнае – вера".*

*З Богам я прайшла ўсе выпрабаванні. З Ім вытрымала хіміятэрапію, апраменьванне, аперацыю. У палаце мы разам маліліся Ружанцам, Вяночкам, спявалі песні. Да нас далучаліся таксама пацыенткі з суседняй палаты. А калі ўжо маглі нармальна рухацца пасля аперацыі, хадзілі на св. Імшу ў капліцу. Дзякую Богу за добрую сям'ю, сяброў, святароў, урачоў, медсясцёр, якія былі побач.*

*Праз некаторы час я з мужам і сяброўкай па няшчасці ўпершыню пайшла ў Тракелі з Ліды. Пілігрымка вельмі спадабалася. Ісці да Маці Божай Тракельскай было лёгка, хоць спачатку мы з сяброўкай вельмі непакоіліся, як вытрымаем пасля таго, што з намі было. Але і на гэты раз усё прайшлі з Богам.*

*У мінулым годзе мы зноў сабраліся ў Тракелі. Але тут мяне пачаў непакоіць пасляаперацыйны шоў. На УГД выявілася новаўтварэнне 25 мм. Аднак урач супакоіў мяне, таму смела вырушыла да Маці Божай. А колькі радасці было, калі вярнулася з пілігрымкі! УГД паказала, што новаўтварэнне паменшылася да 11 мм. Дзякуючы Богу і Маці Божай усё добра!*

*Памятаю, як пасля аперацыі прафесар сказаў мне: "Бог Вас любіць". Цяпер я ўпэўнена ў гэтым. Пастаянна ўзгадваю тыя словы, яны мне вельмі дапамагаюць у жыцці. Дзялюся гэтым сведчаннем, каб падбадзёрыць тых, хто думае, што Бог забыўся пра іх. Нябесны Айцец не можа забыцца пра сваіх дзяцей! Верце, Бог заўсёды з вамі.*

***Ганна***

*У 40-гадовым узросце мяне пачаў непакоіць каленны сустаў. Доўга мучылася: пастаянна цярпела тупы ныючы боль, часам былі абвастрэнні. Але да ўрачоў не звярталася.*

*Мінуў некаторы час, і мы з сястрой рашыліся пайсці ў тракельскі санктуарый. Падаў дробны дождж, дзьмуў вецер, а мы з ружанцам у руках і з малітвай на вуснах вырушылі ў дарогу. Хворая нага дазволіла мне пераадолець 20 км дарогі з Ліды да Тракеляў. Пасля гэтага боль знік. Цяпер нават не памятаю, каторая нага балела. Веру, што ацаленне атрымала ад Маці Божай Тракельскай.*

*Пасля гэтага ў нашай сям'і здарылася яшчэ 3 маленькія цуды. Цяпер ходзім у санктуарый не каб прасіць, а каб дзякаваць.*

***Зоя***

*У маі 2011 года я з маім тады яшчэ будучым мужам вырашылі дастаткова нязвыкла адзначыць першую гадавіну знаёмства – паехалі на экскурсію па прыгажэйшых месцах Беларусі. Аказаўшыся ў Тракелях, як звычайныя турысты зайшлі ў касцёл Наведвання Найсвяцейшай Панны Марыі. Падумаць не маглі, што абраз Маці Божай Тракельскай перавярне ўсё наша жыццё. Пацярпеўшы няўдачу з першай цяжарнасцю, мы, не згаворваючыся, папрасілі ў Марыі падарыць нам дзіця. І літаральна праз месяц я зацяжарыла! Але сапраўдны цуд быў наперадзе...*

*Калі тэрмін цяжарнасці складаў прыкладна месяц, я трапіла ў бальніцу з тым жа дыягназам, што і ў першы раз – "замерлая цяжарнасць". Мне 3 дні калолі спецыяльныя прэпараты, каб перарваць не медыкаментозна. А калі зрабілі кантрольнае УГД перад аперацыяй, аказалася, што... сэрца дзіцяці б'ецца! Апісаць, што я адчувала ў той момант, немагчыма. Мы з мужам упэўнены, што толькі дзякуючы ўмяшанню Вышэйшай Сілы сёння маем дачушку, якую назвалі Дар'я.*

*Нядаўна мы прыехалі ў тракельскі касцёл ужо ўсёй сям'ёй і зноў адчулі ласку, што зыходзіць ад абраза. Хто ведае, можа, цуд зноў пастукаецца ў наша жыццё...*

***Алёна***

**Карыстаючыся магчымасцю, як кусташ санктуарыя Маці Божай Каралевы Нашых Сем'яў у Тракелях запрашаю Вас, дарагія Дыяцэзіяне, на юбілейныя ўрачыстасці, якія адбудуцца 12–13 ліпеня. Галоўную св. Імшу на 2-гі дзень у 10.00 узначаліць Апостальскі нунцый у Беларусі абп Габар Пінтэр. Знаходзячыся блізка, не праходзьце міма – Маці Божая чакае!**

*Кс. Юрый Бяганскі*




◆ *Папа Францішак прызначыў дэлегата для апекі над паломнікамі ў Лурдзе (Францыя). Ім стаў дапаможны біскуп Лілійскай архідыяцэзіі Антуан Эруар. Святы Айцец, па яго словах, імкнецца зразумець, "якія дадатковыя формы пастырства, акрамя многіх, якія ўжо ёсць, маглі б дапамагчы лурдскаму санктуарыю яшчэ больш развівацца ў якасці месца малітваў і хрысціянскіх сведчанняў". Мандат б-па Эруара, які не пакідае служэнне ў Ліле, будзе абмежаваны прытулкам у дыяцэзіі Тарб і Лурд. Прызначэнне атрымана на пэўны тэрмін, што сведчыць пра яго часовасць дзеля дапамогі паломнікам.*

◆ *Саміт па абароне сацыяльных правоў прайшоў у Ватыкане. У ім прынялі ўдзел каля сотні суддзяў з Паўднёвай, Цэнтральнай і Паўночнай Амерыкі. У сваіх дакладах удзельнікі сустрэчы дзяліліся досведам працы ў сферы абароны сацыяльных, эканамічных і культурных правоў, у якой абапіраюцца на сацыяльнае вучэнне Касцёла, а таксама выступілі з новымі прапановамі адносна дзейнасці суддзяў. Ватыканскі саміт пакліканы дапамагчы стварэнню Сталай Панамерыканскай рады суддзяў па абароне сацыяльных правоў. Адной з мэт аб'яднання стане правядзенне сусветнай сустрэчы кампетэнтных асоб на тэму сацыяльных правоў і вучэння папы Францішка.*

◆ *У межах святкавання 40-ой гадавіны першай пілігрымкі папы Яна Паўла ІІ у Польшчу Інстытут нацыянальнай памяці падрыхтаваў партал, прысвечаны першаму візіту Святога Айца ў родную краіну ў 1979 годзе. Там можна знайсці копіі дакументаў, фотаздымкі, графікі, карты і іншыя цікавыя памяткі апостальскага падарожжа. Для замежных чытачоў распрацавана версія тэкстаў на англійскай мове.*

◆ *У Францыі павялічваецца колькасць выпадкаў прафанацыі ў каталіцкіх святынях. Толькі ў адной архідыяцэзіі Пацье дайшло да некалькіх дзясяткаў нападаў за апошнія 3 месяцы. Кожны раз мэтай быў табернакль і Найсвяцейшы Сакрамант. Як падкрэслівае мясцовы арцыбіскуп Паскаль Вінчар, "табернакль не ўяўляе сабой асаблівай каштоўнасці, аднак нападнікі цэляць у месца, якое з'яўляецца для вернікаў самым дарагім". Матывы такіх дзеянняў невядомыя да сёння. Існуе версія, што нядобразычліўцы намагаюцца выцесніць хрысціянства з краіны.*

◆ *Амерыканская кінастудыя "Netflix" выступае за права здзяйсняць аборты. Яна пагражае ўраду штата Джорджыя спыніць паказ сваёй прадукцыі, калі ўступіць у сілу новы закон, які забараняе пазбаўляць жыцця ненароджанае дзіця з таго моманту, як пачынае праслухоўвацца стук яго сэрца, а г. зн. з 6-га тыдня цяжарнасці. Кіраўніцтва кампаніі лічыць, што тым самым "жорстка абмяжоўваюцца правы жанчын". Яны спадзяюцца, што праз шантаж змогуць прымусіць дзяржаву пасклабіць закон.*

*credo.pro; vaticannews.va; ekai.pl.*

# БОЖАЕ ЦЕЛА, УКРЫТАЕ Ў АЛТАРАХ




● *працяг са с. 1*

## ГУЧНАЕ СВЕДЧАННЕ ВЕРЫ

Непасрэднай прычынай устанаўлення ўрачыстасці Божага Цела сталі аб'яўленні ў XIII стагоддзі бл. Юліяне, настаяцельніцы кляштара сясцёр аўгустынак пад Льежам (Бельгія). Бласлаўлёная неаднаразова мела бачанне месячнага дыску з чорнай плямай. Гэта было інтэрпрэтавана як знак адсутнасці ў літургічным календары дня, прысвечанага ўшанаванню Найсвяцейшага Сакраманту.

Пасля аб'яўленняў у 1246 годзе мясцовы біскуп устанавіў свята Божага Цела для дыяцэзіі ў Льежы. З цягам часу яно пачало набіраць папулярнасць, і ў 1264 годзе папа Урбан IV устанавіў свята Corpus Christi (Божага Цела) ва ўсім Касцёле.

Сёння гэтая ўрачыстасць у першую чаргу асацыіруецца з трыумфальным шэсцем вуліцамі горада ці вёскі. Працэсія збірае шматлікіх вернікаў, якія ў гэтыя хвіліны з гонарам абвяшчаюць Хрыста кожнаму мінаку.

Падчас шэсця вернікі традыцыйна спыняюцца каля 4-ох адмысловых алтароў, дзе чытаюцца ўрыўкі з Пісання. Гэтая лічба звязана з 4-ма евангелістамі. Кожны з іх па-свойму гаворыць пра таямніцу Эўхарыстыі. Такім чынам мы глядзім на Пана, схаванага ў кавалку хлеба, вачыма апосталаў.

## ГАЛОЎНАЕ – ПАСЫЛ, А НЕ ДЭКОР

Раней прыпынкі каля вулічных алтароў мелі розныя формы. У далёкія часы каля ахвярнікаў спявалі адарацыйныя песні, чыталі вершы, ставілі прадстаўленні, у якіх былі задзейнічаны розныя біблейскія персанажы. Усё гэта набліжала сабраным праўды веры. У сваю чаргу ў перыяд камуны алтары выглядалі амаль непрыкметна: у адкрытым акне той ці іншай хаты ставілі абраз, каля якога запальвалі свечку.

***"Не так даўно ўвесь дэкор для алтароў даводзілася рабіць уручную. Выкарыстоўвалі ватманы, фарбы, каляровую паперу. Камбінавалі з тых матэрыялаў, што мелі пад рукой",*** – распавядае Алена Харольская. Дзяўчына з часу заснавання моладзевага душпастырства "OPEN" з'яўляецца адным з дэкаратараў алтара, побач з якім спыняецца працэсія Божага Цела ў Гродне. ***"Сёння працэс падрыхтоўкі выглядае прасцей. Неабходную графіку можна знайсці ў інтэрнэце і раздрукаваць. Раней жа ілюстрацыю трэба было шукаць сярод абразкоў ці ў кніжках, перамалёўваць",*** – дадае.

Алена адзначае, што самая складаная частка – тэхнічная. Прыдумаць можна што заўгодна, а рэалізаваць – далёка не ўсё. ***"Да таго ж, у мітусні рознае здаралася. Аднойчы я дагары нагамі прыклеіла літару "э" ў слове "Эўхарыстыя". Казус заўважылі, калі алтар быў ужо цалкам гатовы",*** – узгадвае з усмешкай дэкаратар.

Па словах Алены, галоўная мэта пры стварэнні дэкарацыі – гэта евангелізацыя. ***"Мы мелі шмат цікавых праектаў. Аднойчы зрабілі дэкарацыі са зваротам "Дзяліся верай, як хлебам". Хацелі данесці, што Божае слова патрэбна дзецям Госпада так, як ежа. Разам з тым запомнілася леташняя ідэя – "Эўхарыстыя – сэрца Касцёла". Часта хрысціянін забывае, што Эўхарыстыя з'яўляецца цэнтрам нашай веры. Прыкра глядзець, калі палова сабраных падчас св. Імшы не прымае Камунію. Як Бог можа дзейнічаць у іх жыцці, калі яны самі Яго не ўпускаюць?"*** – адзначае дзяўчына. Дэкаратар упэўнена, што кожны алтар павінен перадаваць пэўнае пасланне, адрасаванае кожнаму чалавеку.

## ШЛЯХ ДА ПАНА, ВЫСЦЕЛЕНЫ КВЕТКАМІ

Неад'емная частка дэкору алтароў – кветкі. Часцей выбар падае на белыя ці жоўтыя, колер якіх з'яўляецца сімвалічным – асацыіруецца з Гостыяй і хлебам.

У Іўі на працягу апошніх 5-ці гадоў прынята рабіць дываны з кветак, якія вядуць да ахвярнікаў. ***"Раней каля алтароў мы выкладвалі паласы, якія прыносілі людзі са сваіх дамоў. Аднак хутка прыйшлі да высновы, што няма ў гэтым эстэтыкі,*** – распавядае с. Ірына Бучынская, якая штогод удзельнічае ў падрыхтоўцы кветкавых дываноў. – ***Пачалі думаць, чым можна іх замяніць. Так і нарадзілася ідэя высцілаць участак ля алтара пялёсткамі".***

За дзень да ўрачыстасці мясцовыя парафіяне пачынаюць збіраць папараць, лубін, язмін, бэз, півоні, ліліі – у залежнасці ад сезону, калі прыпадае свята Божага Цела. Звычайна для аднаго алтара прывозяць 2 бусы, запоўненыя раслінамі.

***"Калі патрэбны кветкі, якія можна знайсці толькі ў агародчыку, звяртаемся да людзей з просьбай падзяліцца. Завітваем у кожную хату, дзе бачым вялікія клумбы. Прыемна, што кветкі ахвяроўваюць не толькі католікі, але і праваслаўныя, і мусульмане. У такія моманты асабліва ганарымся нашай экуменічнай іўеўскай супольнасцю",*** – кажа с. Ірына.

Кветкі сцеляць на асфальт, часам пад іх падкладваюць цырату. Аднак пялёсткі ніяк не прымацоўваюць. За некалькі гадоў існавання традыцыі непагадзь цудам ані разу не парушыла ўзор.

***"Калі толькі пачыналі ўкараняць гэты звычай, дываны выходзілі не надта прыгожыя,*** – адзначае з усмешкай манахіня. – ***Патрэбна маляўнічае бачанне, каб выкласці з пялёсткаў прыгожую эўхарыстычную сімволіку. Аднак дзякуючы супольным намаганням налаўчыліся: робім узор мелам на асфальце, выкарыстоўваем трафарэты".***

У дзень урачыстасці адказныя за дэкор устаюць а 5-ай гадзіне раніцы і пачынаюць выкладваць дыван. Пасля заканчэння працы каля кампазіцыі застаецца некалькі мужчын, якія на працягу дня арашаюць кветкі, дбаюць пра свежасць іх выгляду. Калі набажэнствы завершаны, пялёсткі, прыдатныя да выкарыстання, высушваюць для далейшага прымянення.

## АБ'ЯДНАНЫЯ ВАКОЛ АХВЯРНІКА ПАНА

У Іўі ў аздабленні алтароў задзейнічана ўся парафія. Пробашч дзеліць вернікаў на групы па 30-40 чалавек і прыстаўляе да кожнай духоўную асобу. Адным алтаром займаюцца бацькі першакамунійных дзяцей, другім – "Легіён Марыі" і г. д. Людзі разам абмяркоўваюць ідэі, разам майструюць дэкарацыі. Знаходзіцца месца нават канкурэнцыі – кожная група імкнецца зрабіць лепш, "падарыць Богу годны трон".

У душпастырстве "OPEN" падрыхтоўкай алтара таксама займаецца цэлая каманда. ***"Традыцыйна робім кліч у сацсетках. Цешыць, што заўсёды адгукаецца шмат ахвотных. Некаторыя робяць усё нясмела, баяцца, што атрымаецца неахайна. Аднак жа нашмат больш важная не дасканаласць у вырабе алтара, а прыгажосць чалавечага сэрца, якія выклікаўся дапамагчы",*** – падсумоўвае Алена.




*Ангеліна Марцішэўская*

# Весці вернікаў дарогай веры


Маладыя вернікі парафіі складаюць кс. Вітольду юбілейныя віншаванні

*35 гадоў таму кс. прэлат Вітольд Лазавіцкі прыняў святарскія пасвячэнні і быў пасланы ў Божы вінаграднік, каб супрацоўнічаць з Богам у найпрыгажэйшай і найважнейшай справе, якой з'яўляецца збаўленне душ. З моманту, калі Хрыстос учыніў яго рыбаком людскіх сэрцаў, і да сёння святар выконвае даручанае яму заданне: дзеліцца Добрай Навінай і засейвае Божае слова з верай, што яно прынясе сторазовы плён.*

## СЯМ'Я ЯК ШКОЛА ВЕРЫ

Шаноўны юбіляр паходзіць з Гродна. Выхоўваўся разам з 2-ма сваімі сёстрамі – Луцыяй і Марыяй – у польскай каталіцкай сям'і Яна і Яніны Лазавіцкіх.

Распавядаючы пра сваё дзяцінства, кс. Вітольд узгадвае супольна праведзены з членамі сям'і час: гэта была радасць ад быцця разам, пасілак за адным сталом, спакойная размова, супольная малітва, перажыванне рэлігійных падзей.

***"Тэрытарыяльна мы належалі да катэдральнай парафіі. Але ў той час святара не было, таму на св. Імшу хадзілі ў пабернардынскі касцёл, дзе служыў кс. інфулат Міхал Арановіч,*** – расказвае кс. Вітольд. – ***Менавіта там я прыступіў да I Споведзі і св. Камуніі. Канешне, гэта адбывалася таемна. Нас было 10 дзяцей: 6 дзяўчынак і 4 хлопцы. Кожны ў закрыстыі апрануўся святочна, пасля чаго атрымаў маленькую свечку і пры зачыненых дзвярах прыступіў да святых сакрамантаў".***

У сям'і заўсёды практыкавалі малітву: раніцай пацеры кожны адгаворваў сам, а вечарам – усе разам. У нядзелю ў касцёл хадзілі двойчы: спачатку на св. Імшу ў пабернардынскі, а потым у катэдру на набажэнства, калі на алтар клалі арнат, а замест св. Камуніі была эўхарыстычная цішыня. ***"Мы разам з іншымі гродзенцамі прыходзілі ў святыню, каб паказаць мясцовым уладам, што касцёл не пустуе. У адваротным выпадку яго маглі зачыніць",*** – гаворыць святар.

Кс. Вітольд успамінае, што ў першыя нядзелі месяца ў катэдры адбывалася працэсія, у якой заўсёды ўдзельнічалі яго сёстры. Аднойчы іх пазналі, бацькоў выклікалі ў школу. ***"Тата тады сказаў: «Я паважаю школу, настаўнікаў, але вы вучыце фізіцы, хіміі, гісторыі, матэматыцы, мове, а выхоўваць дзяцей будзем мы з жонкай»",*** – расказвае святар, падкрэсліваючы, што ў тыя камуністычныя часы, нягледзячы на пераслед, людзі стараліся абараняць веру. Канешне, некаторыя баяліся хадзіць у касцёл, асабліва калі займалі на працы высокія пасады. Бацькі кс. Вітольда былі простымі людзьмі: тата працаваў слесарам, а мама – прыбіральшчыцай. Сям'я жыла з працы сваіх рук, таму не мусіла ні перад кім хавацца.

## ШЛЯХ ДА СВЯТАРСТВА

Гаворачы пра сваё пакліканне, ксёндз прэлат адразу прызнае, што гэта быў дастаткова доўгі, але адначасова цікавы шлях. ***"Калі я скончыў сярэднюю школу, да арміі заставалася паўтара года,*** – узгадвае святар. – ***Бацька тады сказаў, што няма чаго абівацца, таму я паступіў у хіміка-тэхналагічны тэхнікум у Гродне на спецыяльнасць «газавая прамысловасць». Затым на 2 гады пайшоў у войска. У гэты перыяд навучыўся практычнаму мысленню. Пакліканне да святарства яшчэ не адчуваў".***

Пасля арміі кс. Вітольд працаваў у газавай службе на заводзе прывадных валаў. Меў там добры заробак. Яму прапанавалі ўступіць у партыю, паехаць на вучобу ў Мінск, каб пазней заняць вышэйшую пасаду. Але малады мужчына адчуваў, што гэта не яго месца.

У той жа час ён пачаў прыслужваць на св. Імшы ў францысканскім касцёле. Там пасябраваў з кс. прэлатам Юзафам Трубовічам. Паступова адкрываў у сабе пакліканне да святарства – таямніцу сустрэчы 2-юх свабод: Бога, які кліча, і чалавека, які на гэты заклік адказвае.

***"Больш за паўтара года я разважаў над рашэннем пайсці ў семінарыю. Бацькі казалі: «Глядзі, гэта твой крок, ты сам павінен прыняць рашэнне»",*** – распавядае святар. Узгадвае таксама, што пазней даведаўся, што перш чым вырашыў прысвяціць сваё жыццё служэнню Хрысту, яго бабуля, якая ў 1956 годзе пераехала ў Польшчу, малілася, каб хтосьці з унукаў стаў святаром. Што праўда, яна больш думала пра яго стрыечнага брата Андрэя, які жыў у Беластоку, але Бог пакіраваў інакш. У кастрычніку 1979 года ў семінарыю ў Рызе (Латвія) паступіў Вітольд.

***"Спярша да мяне прыглядаліся, дзівіліся: чаму пакінуў добрую працу і вырашыў стаць святаром,*** – дзеліцца кс. Вітольд. – ***Пасля вучобы і духоўнай фармацыі 3 чэрвеня 1984 года надышоў самы адказны момант – святарскія пасвячэнні. Яны адбываліся ў рыжскай катэдры. Гэта была т. зв. міжнародніца: 1 латыш, 3-ое палякаў і 2-ое ўкраінцаў. Да мяне з Гродна прыехалі 2 аўтобусы: родныя, знаёмыя. Калі яны ўбачылі біскупа, рэктара семінарыі, пачалі кленчыць перад ім і цалаваць у руку. Усе плакалі. Эксцэленцыя спытаўся, адкуль гэтыя людзі і чаму так сябе паводзяць. І пачуў адказ: «Мы прыехалі з Гродна. Апошні раз у нас бачылі біскупа ў 1937 годзе»".***


Кс. Вітольд Лазавіцкі ля помніка забітым 15 чэрвеня 1944 г. жыхарам Сапоцкіна

## ЦЯЖКІЯ ПАЧАТКІ

Пасля святарскіх пасвячэнняў малады ксёндз ненадоўга трапіў як вікарый у гродзенскую францысканскую парафію. Затым працаваў у парафіях Лабна, Галынка, Перстунь, Тэалін (Сапоцкін). У гэты час намагаўся адкрыць касцёл у Галынцы. Затым рамантаваў святыню ў Перстуні, дзе праваліўся дах, будаваў капліцу ў Калетах. Будучы пробашчам у Сапоцкіне прыклаў шмат намаганняў, каб узвесці там плябанію і касцёльныя вежы. Прывёз з Расіі 3 званы: у Сапоцкін, Галынку і Лабна.

Не забываўся таксама пра катэхізацыю дзяцей і моладзі. ***"У 1992 годзе стараўся, каб у сапоцкінскую парафію прыбылі катэхеткі,*** – расказвае кс. Вітольд. – ***Паехаў у Польшчу. Наведаў каля 15-ці манаскіх супольнасцей, але ўсюды чуў, што няма манахінь у дапамогу. Таму павінен быў праводзіць урокі рэлігіі сам – не існавала іншага выхаду. Цяжка было спалучаць працу ў парафіі, рамонт і катэхезу. Усё рабілася таемна. Пасля таго, як у касцёл прыходзілі бацькі з дзецьмі, мы замыкаліся, маліліся, а затым праводзілі заняткі. Двойчы я атрымліваў штраф, таму што бацькі, згодна з тагачаснымі правіламі, павінны былі самастойна вучыць сваіх сыноў і дачок рэлігіі, а толькі пасля прыводзіць у касцёл, каб ксёндз іх праверыў. А калі збіралася хаця б 5 маладых людзей разам, гэта лічылася ўжо катэхізацыяй, якая была забаронена. Нягледзячы ні на што, мы рызыкавалі і рабілі па-свойму".*** Ажно Бог выслухаў кс. Вітольда, і ў сакавіку 1993 года ў парафію прыбылі сёстры серафіткі, якія працуюць у Сапоцкіне па сёння.

***"Пачаткі заўсёды цяжкія. Мая душпастырская паслуга не з'яўляецца выключэннем,*** – гаворыць кс. Вітольд. – ***Добра, калі пасля пасвячэнняў малады святар знаходзіцца побач са старэйшым. Я быў пры кс. Юзафе Трубовічу не больш за 3 месяцы. Таму калі перайшоў на парафію ў Сапоцкін, часта звяртаўся да яго за парадай. Шмат мне дапамагаў таксама кс. Казімір Арлоўскі з суседняй парафіі ў Адамавічах. Аднак нямала я мусіў рабіць самастойна. У адной старой прыказцы гаворыцца: «Птушка нараджаецца, каб спяваць і лятаць, а чалавек – каб маліцца і працаваць». Таму і я нястомна маліўся, меў планы і стараўся іх рэалізаваць".***

## 35 ГАДОЎ ЯК 1 ДЗЕНЬ

Пасля 26-ці гадоў паслугі кс. Вітольд Лазавіцкі пакінуў парафію Унебаўзяцця Маці Божай і св. Язафата Кунцэвіча ў Сапоцкіне. Паўтара года служыў у гродзенскай парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі, а затым 6 гадоў у парафіі Маці Божай Ружанцовай у Радуні. Цяпер з'яўляецца пробашчам у парафіі Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі ў Зарачанцы (Баля Касцёльная).

***"Гэтыя 35 гадоў мінулі, як 1 дзень,*** – падсумоўвае святар. – ***На працягу ўсёй душпастырскай паслугі я адчуваў, што Бог мне дапамагае. Стараўся звяртаць увагу толькі на дабро, што адбывалася вакол мяне, а пра смуткі і няўдачы прагнуў як мага хутчэй забыцца. На першым месцы заўсёды была і ёсць служба Богу і людзям, сакраментальнае жыццё, малітва і штодзённая Эўхарыстыя".***

Гаворачы пра выпрабаванні, з якімі мусіць змагацца, кс. Вітольд адзначае, што ў сучасным свеце кожны святар павінен выходзіць да людзей, вучыць іх трымацца падмурка, якім з'яўляецца вера, паказваць, што можна карыстацца для матэрыяльнага дабрабыту і годнага жыцця дасягненнямі цывілізацыі, але разам з тым памятаць, што галоўнай мэтай застаецца збаўленне.

***"У блытаніне інфармацыі людзі забываюцца, што ўсе мы на зямлі нібы ў дэлегацыі, паколькі наша сапраўдная Бацькаўшчына знаходзіцца ў Небе. Трэба ўсведамляць, што чалавек жыве не адным хлебам, а патрабуе таксама малітвы, якая ўтрымлівае ў адзінстве з Богам. Я ўпэўнены, што людское сэрца можна здабыць любоўю і праўдай, таму што кожны без выключэння мае ў сабе зярнятка дабра. Магчыма, запыленае грахом, але яго можна ачысціць. Стараюся рабіць для гэтага ўсё магчымае. Ведаю, што Пан Бог выправіць тое, што атрымаецца, бо стварыў свет са слабых і грэшных людзей, каб яны дараслі да святасці".***

## РАДАСЦЬ АД ЗДЗЯЙСНЕННЯ АБЯЦАННЯЎ

Ксёндз прэлат адзначае, што юбілеі і круглыя гадавіны святарскіх пасвячэнняў заўсёды схіляюць да ўспамінаў аб тым, куды быў пасланы, дзе служыў, на працягу якога часу, колькі прамовіў казанняў, рэкалекцый, колькі хростаў, шлюбаў удзяліў, колькі разоў адпускаў грахі, колькі людзей правёў у вечнае жыццё… ***"Усяго было, канешне, нямала, таму што такія складнікі штодзённай святарскай працы. Але гэтая статыстыка – хоць палюдску зразумелая – не галоўная, не найважнейшая прычына для радасці з перспектывы веры,*** – тлумачыць юбіляр. – ***Галоўнай нагодай, каб усцешыцца, з'яўляюцца плады святарскага служэння. Інакш кажучы, калі ўдалося рэалізаваць сябе як абвяшчальніка Божага слова і сведку Евангелля, цэлебранта сакрамантаў, катэхета, правадыра парафіяльнай супольнасці, таго, хто скіроўвае да Хрыста, адзінага Збаўцы".***

Кс. Вітольд Лазавіцкі падкрэслівае, што радасць юбілею – гэта радасць саспелага плёну: ужо не ад абяцанняў, а ад здзяйснення. Радасць, якая вынікае з вернасці Богу, з таго, што дазволіў Яму весці сябе, што не засумняваўся ў Ім, нягледзячы на цяжкасці, і праз ахвяру сваіх намаганняў, розуму, рук і працы стаў прыладай, пры дапамозе якой Бог мог адраджаць людзей сваімі ласкамі.

*Кінга Красіцкая*




### Прэзідэнт Польшчы ў новапрэзбітэра

***Анджэй Дуда прыбыў з візітам у варшаўскі шпіталь да 31-гадовага смяротна хворага святара, які ўдзяліў кіраўніку дзяржавы прыміцыйнае благаслаўленне.***

*У кс. Міхала Лоса дыягнаставалі прагрэсіруючае ракавае захворванне. Лячэнне было распачата адразу ж, але, на жаль, прагнозы ўрачоў не суцяшальныя. Мужчына атрымаў спецыяльны дазвол ад папы Францішка, каб прыняць святарскае пасвячэнне – марыў хоць аднойчы за жыццё адправіць св. Імшу.*

*Доўгачаканая падзея адбылася ў анкалагічным аддзяленні 24 мая. Святар ужо не адзін раз канцэлебраваў сакрамант Эўхарыстыі са свайго шпітальнага ложка.*




### "Мы існуём!"

***Каля 200 асоб, якія адмовіліся ад гомасексуальных практык і жывуць у чыстасці, прынялі ўдзел у Маршы свабоды, што прайшоў вуліцамі Вашынгтона (ЗША).***

*"Глядзіце! Гэта неверагодна! А кажуць, што нас не існуе!" – сцвердзіла адна з арганізатараў дэманстрацыі рэжысёр і прадзюсар дакументальных фільмаў М.Дж. Ніксан.*

*Удзельнікі сустрэчы перажылі змены ў жыцці не ў выніку т. зв. рэпарацыйнай тэрапіі, а дзякуючы духоўнаму навяртанню. Яны сцвярджаюць, што тоеснасць ляжыць не ў сексуальнасці чалавека, а толькі ў Езусе Хрысце.*




### Старэйшы касцёл у Егіпце

***Падчас раскопак у ваколіцах Александрыі археолагі знайшлі касцёл з першай паловы IV стагоддзя. На думку адкрывальнікаў, гэта адна са старэйшых вядомых да гэтага часу хрысціянскіх святынь у Егіпце.***

*Яна знаходзіцца на тэрыторыі антычнай Марэі, якая ўзнікла больш за 2 тысячы гадоў таму. Трохнававы касцёл (меў 24 на 15 м) быў адкрыты поўнасцю пад збудаванай пазней манументальнай базілікай, разбуранай у выніку землятрусу. У старажытнай святыні знойдзены амфары, што служылі, верагодна, для захоўвання віна, алейныя лямпы для асвячэння будынка, разбітыя мініяцюрныя колбы, у якіх знаходзіліся духмяныя рэчывы.*

*Марэя – горад, заснаваны яшчэ ў часы Аляксандра Вялікага. Гэта быў порт, у якім тавары з Егіпта, што прывозіліся праз адгалінаванне Ніла і возера, перагружаліся на марскія караблі.*




### *Ці з'яўляецца сужэнская здрада падставай для разводу?*

*"А Я кажу вам: кожны, хто разводзіцца з жонкаю сваёю, акрамя як з прычыны распусты, той даводзіць яе да чужалоства, а хто ажэніцца з разведзенаю, той чужаложыць" (Мц 5, 32). Чытаючы дадзены фрагмент з Евангелля, можа ўзнікнуць уражанне, нібы нявернасць, дапушчаная праз жанчыну, неадхільна караецца аддаленнем, разводам. Такую выснову чалавек робіць, калі даслоўна, літаральна ўспрымае Божае слова, не зважаючы на герменеўтыку евангельскіх тэкстаў, г. зн. калі не бярэ пад увагу сацыяльныя абставіны, культуру, спецыфіку сужэнскіх адносін таго перыяду.*

*Гледзячы з перспектывы часу, можна смела сцвердзіць, што справа сужэнства з'яўляецца прыярытэтнай для Касцёла і грамадства. Каб больш дакладна растлумачыць пытанне адносна дадзенай справы, варта правесці крыху іншую маральную паралель. Калі хрысціянін грашыць, калі дапускае нават цяжкія правіны, Касцёл жа не ліквідуе сакрамант хросту, праз які чалавек быў далучаны да супольнасці? Наадварот, ён прабачае грэшніка і дае яму магчымасць выправіцца. Па аналогіі прабачэнне павінна быць ключавым момантам і ў сужэнстве. Інакш якое ўвогуле значэнне мела б шлюбная прысяга, калі б яна не брала пад увагу такую праблему, як здрада? Учынак сужэнскай нявернасці не павінен быць падставай для разводу і прычынай аддалення ад сваёй другой палову.*

*Кс. Максім Бачарнікаў*
***Паводле grodnensis.by***

# Сем "я" – адна сям'я, або мы і Бог




***Віталій і Іна Белавокія з парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Гродне некалькі гадоў чакалі нараджэння дзіцяці. Бог аказаў сужэнцам ласку і шчодра адарыў іх патомствам. Сёння бацькі выхоўваюць 10-гадовага Аўгусціна, 8-гадовага Дамініка, 6-гадовага Яна і гадавалую Марыю.***

***Сужэнцы з маленства гадуюць дзяцей у веры. Маюць цвёрдую ўпэўненасць у тым, што ў сям'і абавязкова павінна быць месца для Бога. На старонках "Слова Жыцця" бацькі распавядаюць пра сваю штодзённасць і разважаюць наконт таго, што дапамагае ім быць адным цэлым.***



*Бацькі (злева), браты, сястра і хросныя (справа) спадарожнічаюць Дамініку падчас яго Першай св. Камуніі*

#### НА МОЦНЫМ ПАДМУРКУ

Сям'ю не заменяць ні найбольшыя грошы, ні кар'ера, ні сябры. Гэта тое месца, дзе разумеюць без слоў, падтрымаюць у любой сітуацыі, дзе можна схавацца ад свету, дзе не павінна быць зайздрасці, саперніцтва, дзе шчасце – проста быць... Быць, нягледзячы на розныя хітрасплячэнні лёсу.

Каб пабудаваць шчаслівую сям'ю, неабходны добры падмурак. І наколькі ён будзе моцны, залежыць, у першую чаргу, ад саміх сужэнцаў. Мы напачатку вырашылі, што дом нашага жыцця пабудуем на веры ў Бога. Без Яго не ступім ні кроку. Вызначыўшы накірунак, прыкладваем усе магчымыя намаганні, каб "не адхіліцца ад курсу".

#### СЭРЦА СЯМ'І – ГЭТА БОГ

Мы разам молімся ранкам і ўвечары ў сваім хатнім "санктуарыі". На святы і ў нядзелю абавязкова ідзём у касцёл. Нават пасля нараджэння малодшых дзяцей стараемся не прапускаць св. Імшу, на ўласным прыкладзе паказваючы старэйшым, што для сустрэч з Богам не існуе перашкод.

Увогуле, прыклад бацькоў у выхаванні дзяцей, у тым ліку і рэлігійным, з'яўляецца вызначальным. Вялікі ўплыў на малодшае пакаленне аказвае тое, як мы размаўляем з іншымі людзьмі, як сустракаем радасці і няготы, як аказваем адзін аднаму дапамогу. Стараемся разам хадзіць у пілігрымкі, удзельнічаць у рэкалекцыях. Кожны месяц з задавальненнем адпраўляемся на сустрэчы сем'яў, што паглыбляе і развівае нашу веру.

На галоўныя святы – Вялікдзень, Божае Нараджэнне – упрыгожваем дом. Тлумачым дзецям, як важна рыхтавацца да сустрэчы з Богам. Звяртаем увагу нават на такія, здавалася б, дробныя моманты, як што апрануць у касцёл. На наш погляд, гэта павінна быць лепшае адзенне, а не звыклыя джынсы і красоўкі. Праз прыгожую вопратку мы выказваем любячаму Айцу сваё годнае стаўленне. І няхай гэта будзе не толькі ў дзень Першай Камуніі, канфірмацыі, шлюбу...

У разнастайных абставінах імкнёмся паказаць дзецям, як правільна сябе паводзіць, даносім да іх свядомасці, што пра гэта гаварыў Езус. На ноч чытаем ім Біблію. Калі развітваемся, заўсёды благаслаўляем адзін аднаго, робячы знак крыжа на ілбе. Так робім і мы самі, і нашы дзеці.

#### ТОЛЬКІ З МАЛІТВАЙ

Што самае галоўнае ў сямейным жыцці? Вядома, любоў. І малітва! Без яе не пабудуеш падмурка, на якім павінен выстаяць сужэнскі саюз; якая б моцная любоў ні была. У жыцці столькі ўсяго здараецца... За 15 гадоў свайго сужэнства шмат чаго перажылі. І заўсёды выратавальным кругам для нас была малітва. Калі раней звярталіся да Бога з просьбамі, то цяпер гэта часцей малітва ўдзячнасці. Дзякуем за ўсе ласкі, якімі нас адарыў Усемагутны, і цуды, якія па Яго волі да сёння назіраем у жыцці.

**Сям'я – гэта вялікая і пастаянная праца, перш за ўсё над сабой. Вядома, усе мы не ідэальныя. Варта штодня прасіць Бога аб цярплівасці, супакоі, чуласці, узаемаразуменні. І дзякаваць. Дзякаваць за кожны дзень і што ў ім: было ці яшчэ адбудзецца.**

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Некалькі думак з Дня дзіцяці

***1 чэрвеня ў гродзенскай парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі адбыўся IX Дыяцэзіяльны дзень дзіцяці. У мерапрыемстве прынялі ўдзел больш за 2,5 тысячы хлопцаў і дзяўчат з розных куткоў Гродзенскай дыяцэзіі, а таксама з Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі.***

Дзецям спадарожнічалі манаскія сёстры, святары, бацькі і апекуны. Больш за сотню валанцёраў і аніматараў стараліся разнастаіць свята, каб усе яго ўдзельнікі атрымалі неймаверныя ўражанні. Сярод іншых дзяцей забаўлялі фокуснікі, артысты лялечнага тэатра. На прыкасцёльнай тэрыторыі працавалі надзіманыя горкі і батуты, цырульніцкі салон, фізіка-хімічная лабараторыя, творчая майстэрня. У дзяцей была магчымасць паспрабаваць сыграць на розных музычных інструментах, а таксама пасядзець у крэсле сапраўднага байкерскага матацыкла. Самыя адважныя маглі апынуцца пад штучным дажджом, які падчас воднага шоу арганізавалі прадстаўнікі службы па надзвычайных сітуацыях.

Звяртаючы ўвагу на дэвіз мерапрыемства, які гучаў як "Сям'я – дом любові", галоўны арганізатар Дыяцэзіяльнага дня дзіцяці кс. Юрый Марціновіч адзначыў, што ***"сям'я – гэта першая школа любові".*** Як дакладна! Любоў закладзена ў самім чалавеку, у яго сутнасці. І ён не можа дзейнічаць насуперак сваёй натуры. Роля бацькоў як першых настаўнікаў палягае на тым, каб данесці дадзеную праўду дзецям, за выхаванне якіх яны адказныя...




Галоўным пунктам свята стала св. Імша, цэлебраваная ардынарыем Гродзенскай дыяцэзіі біскупам Аляксандрам Кашкевічам. Удзельнікі ДДД агарнулі малітвай усіх хлопцаў і дзяўчат, якія "па розных прычынах сумныя". ***У свеце столькі дзяцей, якія не могуць спазнаць сапраўдную радасць дзяцінства!*** Неверагодна балюча, калі думаеш пра тых, хто не мае бацькоў, хварэе, гадуецца ва ўмовах, пазбаўленых элементарных дабротаў. Нагадваючы дзецям пра такіх равеснікаў, вучым іх шанаваць і з павагай адносіцца да ўсяго, што маюць. Малітва ў дадзеным выпадку з'яўляецца працягнутай рукой дапамогі няшчасным.

***"Сёння ў свеце ёсць шмат рэчаў, якія робяць для чалавека немагчымай сустрэчу з Богам",*** – заўважыў падчас гаміліі прэфект Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне кс. Ян Раманоўскі. Дзеці самі прызналіся, што ім часам замінае інтэрнэт, гульні і забавы. Варта ўсвядоміць, што нават добрая рэч можа стаць перашкодай у адносінах з Богам. Усё залежыць ад таго, як ёю карыстацца.

Напрыканцы свята дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі ўдзяліў удзельнікам мерапрыемства благаслаўленне на шчаслівае вяртанне дадому і заклікаў дзяцей ***ніколі не рабіць канікул ад Бога, малітвы і Касцёла.*** Сэрца чалавека як Божага стварэння не можа мець адпачынку ад свайго Стварыцеля: яно стукаецца ў грудзях па волі Айца. І чым раней кожны з нас прыходзіць да гэтай высновы, тым лягчэй правільна выбудоўвае сваё жыццё.

І дакладна так, як мы вучымся хадзіць і размаўляць, вучымся таксама годным паводзінам і сапраўдным каштоўнасцям. З маленства. Ад бацькоў. Па словах біскупа Гродзенскага Аляксандра Кашкевіча, ***"сям'я, моцная Богам, з'яўляецца нашай будучыняй".*** Іншымі словамі, ад таго, якія вартасці закладваюцца чалавеку з калыскі, залежыць лёс наступных пакаленняў. Такім чынам, сёння ён залежыць ад нас з вамі, заўтра – ад нашых дзяцей.

*Ангеліна Пакачайла*

## НАВІНЫ




# ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫ ДЗЕНЬ БАЦЬКІ

Традыцыйна ў першую нядзелю чэрвеня ў Гродзенскай дыяцэзіі адзначаецца Дзень бацькі. Вернікі моляцца за ўсіх бацькаў, а для памерлых просяць вечнага шчасця ў Небе.

Галоўныя святкаванні сёлета адбыліся ў Дыяцэзіяльным санктуарыі Маці Божай Суцяшальніцы Засмучаных у Барунах (дэканат Ашмяны). На ўрачыстасці прыбыла пешая пілігрымка з Ашмянаў, у якой прынялі ўдзел больш за 100 чалавек. Адметнасць гэтай пілігрымкі ў тым, што яе складаюць выключна мужчыны. Яны пілігрымавалі ў інтэнцыі бацькаў сем'яў дыяцэзіі, молячыся, каб кожны з іх быў добрым прыкладам для сваёй сям'і. Урачыстую св. Імшу ў санктуарыі ўзначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. Іерарх падзякаваў мужчынам за іх сведчанне веры і адзначыў, што "сям'я з'яўляецца першай школай жыцця, бо менавіта там здзяйсняецца выхаванне новых пакаленняў, якія здольны змяніць аблічча зямлі і ўсяго грамадства".

На малітве ў інтэнцыі бацькаў сабраліся таксама вернікі ў Дыяцэзіяльным санктуарыі Маці Божай Яснагорскай, Цярпліва Слухаючай, на Узгорку Надзеі ў Капцёўцы (дэканат Гродна-Захад). Прысутныя выслухалі канферэнцыю на тэму асобы св. Юзафа як узору для сучасных татаў, пасля чаго прынялі ўдзел у набажэнстве Крыжовага шляху. Кульмінацыяй малітоўнай сустрэчы стала ўрачыстая св. Імша ў інтэнцыі ўсіх бацькаў Гродзенскай дыяцэзіі.

## БІСКУПСКІЯ ВІЗІТЫ



Біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч прыняў удзел ва ўрачыстасцях падзякі за дар беатыфікацыі Міхала Гедройца, якія адбыліся ў Марыяцкай базіліцы ў Кракаве (Польшча). Іх узначаліў прэфект Кангрэгацыі па справах кананізацыі кардынал Анджэла Бечу.

У касцёле св. Юзафа Каласанса ў Лідзе біскуп Аляксандр цэлебраваў св. Імшу, падчас якой блаславіў новы арган. У адпустовую ўрачыстасць Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі іерарх наведаў парафіяльную святыню ў Тракелях (дэканат Радунь), дзе асвяціў новы алтар.

## ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫЯ ДУШПАСТЫРСТВЫ



У Дыяцэзіяльным санктуарыі Маці Божай Каралевы Нашых Сем'яў у Тракелях адбылася сустрэча малітоўнай групы Легіён Марыі, на якую прыбылі прадстаўнікі з Ліды і Іўя. Яе правёў кусташ санктуарыя кс. Юрый Бяганскі.

## ВЫШЭЙШАЯ ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ



З нагоды Міжнароднага дня дзіцяці навучэнцы Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі на чале з прэфектам кс. Андрэем Лішко наведалі дом-інтэрнат у Галавічполі, дзе жывуць дзеці з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця. Семінарысты арганізавалі для хлопцаў і дзяўчат імправізаваную праграму і весела правялі з імі час.

Пасля заканчэння экзаменацыйнай сесіі ў клерыкаў распачаліся канікулы. У гэты час алумны прымаюць удзел у разнастайных душпастырскіх акцыях, запланаваных на тэрыторыі дыяцэзіі, дапамагаюць пры родных парафіях, праходзяць душпастырска-літургічную практыку ў вызначаных супольнасцях, а таксама ўдзельнічаюць у пешых пілігрымках. Акрамя гэтага, атрымліваюць магчымасць некаторы час адпачыць дома.



## АДНЫМ РАДКАМ

• Дзень дзіцяці ў Іўі адзначылі веласіпеднай экскурсіяй. • Сустрэча піярскага душпастырства настаўнікаў прайшла ў Шчучыне. • Уняссенне рэліквій св. Яна Паўла II адбылося ў Смаргоні. • Рэліквіі бл. Ежы Папялушкі ўнесены ў пабернардынскі касцёл у Гродне, а таксама ў святыні ў Зарачанцы (дэканат Сапоцкін) і Бярозаўцы (дэканат Навагрудак). • Першакамуніййныя дзеці з парафіі св. Юзафа ў Гродне і парафіі Перамянення Пана ў Вялікай Бераставіцы адбылі пілігрымку ўдзячнасці ў Тракелі.

*Агляд навін падрыхтаваны на падставе інтэрнэт-старонкі* ***grodnensis.by.***

# У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**18 чэрвеня 1954 г.** – кс. кан. Антоній Курыловіч, *ген. вік., проб. Гродна;*
**19 чэрвеня 1942 г.** – кс. Пётр Аранскі, *проб. Гальшаны;*
**19 чэрвеня 1955 г.** – кс. абп Рамуальд Ялбжыкоўскі, *Мітрапаліт Віленскі;*
**21 чэрвеня 1941 г.** – кс. Станіслаў Сташэліс, *проб. Сурвілішкі;*
**22 чэрвеня 1941 г.** – кс. Станіслаў Зубковіч, *проб. Трабы;*
**25 чэрвеня 1939 г.** – кс. Тамаш Калінскі, *проб. Міжэрычы;*
**30 чэрвеня 1994 г.** – кс. Станіслаў Петраш SchP, *проб. Крамяніца.*

## АНОНСЫ

## У ПЕШАЯ ПІЛІГРЫМКА ВЫРУШЫЦЬ З ЛІДЫ Ў БУДСЛАЎ

**Паломнікі накіруюцца ў дарогу 27 чэрвеня пасля св. Імшы ў касцёле Узвышэння Святога Крыжа (Фара) у 9.00. Пілігрымка пройдзе пад дэвізам "Ідзі і адгэтуль больш не грашы" (Ян 8, 11).**

Сёлета ўрачыстасці ў Нацыянальным санктуарыі Маці Божай у Будславе пройдуць 5–6 ліпеня і ўпершыню будуць адзначацца як прызнаная ЮНЕСКА частка нематэрыяльнай спадчыны чалавецтва. Дэвіз сёлетняга будслаўскага фэсту – "Каралева сем'яў, маліся за нас" – суадносіцца з тэмай душпастырскага года, абвешчанай Канферэнцыяй Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі: "Сям'я – крыніца радасці і надзеі моладзі".

*Запіс і падрабязная інфармацыя па тэлефоне: (8 029) 121-10-82 – кс. Дзяніс Бразінскі.*

## ПЕШАЯ ПІЛІГРЫМКА ГУДАГАЙ – БУДСЛАЎ СТАРТУЕ Ў 9-ТЫ РАЗ

**Пілігрымы вырушаць у шлях да Маці Божай з касцёла Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі 29 чэрвеня пасля св. Імшы а 7-ай гадзіне раніцы.**

*Запісацца ў пілігрымку можна непасрэдна ў парафіяльным касцёле ў Гудагаі, а таксама па тэлефонах: (8 029) 656-19-25, (8 029) 787-63-04 – а. Казімір Мараўскі OCD.*

## ХХ САЛЕЗІЯНСКАЯ МОЛАДЗЕВАЯ ПІЛІГРЫМКА ВЫРУШЫЦЬ У БУДСЛАЎ

**Паломніцтва пад дэвізам "Святасць таксама і для цябе" стартуе 30 чэрвеня з парафіі св. Міхала Арханёла ў Смаргоні.**

За 6 дзён пілігрымы пераадолеюць 105 кіламетраў шляху. Да ўдзелу запрашаюцца ўсе жадаючыя ва ўзросце ад 14-ці да 35-ці гадоў.

*За падрабязнай інфармацыяй можна звяртацца да кс. Паўла Шчарбіцкага SDB па тэлефоне: (8 029) 389-76-69.*

## ПЕШЫЯ ПІЛІГРЫМКІ Ў ТРАКЕЛІ

**Гродна – Тракелі**
***Траса:***
Гродна – Азёры – Астрына – Забалаць – Пагародна – Тракелі.
***Пачатак пілігрымкі:*** 8 ліпеня ў 9.00
*(св. Імша ў катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя).*
***Адказны:*** кс. Павел Салабуда, (8-029) 637-07-17.

**Навагрудак – Тракелі**
***Траса:***
Навагрудак – Бярозаўка – Ёдкі – Тракелі.
***Пачатак пілігрымкі:*** 10 ліпеня ў 9.00
*(св. Імша ў касцёле св. Міхала Арханёла).*
***Адказны:*** кс. Юрый Жэгарын, (8-044) 552-21-99.

**Іўе – Тракелі**
***Траса:***
Сурвілішкі – Эйгерды – Юрацішкі – Лаздуны – Дуды – Іўе – Ліпнішкі – Суботнікі – Геранёны – Тракелі.
***Пачатак пілігрымкі:*** 8 ліпеня ў 9.00
*(св. Імша ў касцёле Найсвяцейшай Тройцы).*
***Адказны:*** кс. Ян Гавэцкі, (8-029) 632-21-79.

**Ашмяны – Тракелі**
***Траса:***
Ашмяны – Гальшаны – Жамыслаўль – Іўе – Тракелі.
***Пачатак пілігрымкі:*** 9 ліпеня ў 7.30
*(св. Імша ў касцёле свсв. апап. Пятра і Паўла ў Барунах у 14.00).*
***Адказны:*** кс. Юрый Садоўскі, (8 033) 344-40-20.

**Ваўкавыск – Тракелі**
***Траса:***
Ваўкавыск – Правыя Масты – Жалудок – Тарнова – Ліда – Тракелі.
***Пачатак пілігрымкі:*** 8 ліпеня ў 8.00
*(св. Імша ў касцёле св. Вацлава).*
Адказны: кс. Віталій Пяткевіч, (8-029) 889-92-03.

***Урачыстасці ў Дыяцэзіяльным санктуарыі Маці Божай Каралевы Нашых Сем'яў у Тракелях будуць праходзіць 12–13 ліпеня.***

## Каляндар падзей

***17 чэрвеня***
*Успамін св. Альберта Хмялёўскага, манаха.*

***20 чэрвеня***
*Урачыстасць Найсвяцейшага Цела і Крыві Хрыста (Божае Цела).*

***21 чэрвеня***
*Успамін св. Алаізія Гангазі, манаха.*

***24 чэрвеня***
*Урачыстасць нараджэння св. Яна Хрысціцеля.*

***28 чэрвеня***
*Урачыстасць Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса. Сусветны дзень малітвы аб святасці святароў. У гэты дзень пост ад мясных страў неабавязковы.*

***29 чэрвеня***
*Урачыстасць свсв. апосталаў Пятра і Паўла.*

***Заахвочваем да ўдзелу ў чэрвеньскіх набажэнствах.***

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Чэрвень***
*Аб Божым блаславленні для парафіяльных супольнасцей нашай дыяцэзіі, якія будуюць новыя святыні. Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім. Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё.*

***Інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі grodnensis.by***
*Асвятленне падзей з жыцця Касцёла на Гродзеншчыне. Даступны фотаі відэаматэрыялы.*

# Ад шчырага сэрца

**Паважанаму Айцу Пробашчу Антонію Пажэцкаму**

з нагоды Імянін перасылаем самыя сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя і радасці на кожны дзень. Няхай святы Заступнік штодзённа Вам спадарожнічае ў дарозе да святасці і да людскіх сэрцаў, усемагутны Бог ахінае сваім бласлаўленнем, а Найсвяцейшая Маці нястомна апекуецца, прытуляе да сябе і абараняе ад усякага зла.

*Рыцарства Беззаганнай і Кола адарацыі*

**Паважанаму Ксяндзу Прэлату Антонію Філіпчыку**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем шчодрых Божых ласкаў на кожны дзень жыцця. Няхай здароўе будзе моцным, спакой заўсёды жыве ў сэрцы, радасць не пакідае, а моц не слабее. Няхай святы Заступнік нястомна чувае над Вамі, а Найсвяцейшая Панна Марыя ахінае плашчом мацярынскай любові і вядзе па дарозе да свайго Сына Езуса Хрыста.

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Ваўкавыска*

**Паважанаму Ксяндзу Прэлату Антонію Ханько**

з нагоды Імянін жадаем патрэбных Божых ласкаў на кожны дзень. Няхай Ваша жыццё будзе шчаслівым і бласлаўлёным, побач заўсёды будуць добразычлівыя людзі, а ў сэрцы жыве радасць, дабрыня, любоў і надзея. Няхай здароўе заўсёды спрыяе, моц ніколі не пакідае, Езус Хрыстус падтрымлівае ў кожнай справе, а святы Заступнік нястомна чувае над Вамі.

*Парафіяне з Жалудка*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Гавэцкаму**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, аптымізму, сілы і стойкасці ў святарскай паслузе, дабра і зычлівасці ад людзей навокал, а таксама Божага бласлаўлення на кожны дзень. Няхай Вас заўсёды ахінае сваёй любоўю Найсвяцейшая Маці, а святы Заступнік нястомна апекуецца і вядзе па дарозе да збаўлення.

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Іўя*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Залогу**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: неабходных Божых ласкаў, моцнага здароўя на доўгія гады, шчасця, аптымізму, сілы і стойкасці на жыццёвым шляху, а таксама шчодрых дароў Святога Духа і нястомнай апекі святога Заступніка на кожны дзень.

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Жырмунаў*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Яну Рэйшалю**

з нагоды Імянін перасылаем мноства найлепшых пажаданняў: здароўя, душэўнага супакою, поспехаў у душпастырскай працы, нязгаснай любові і веры, а таксама добразычлівых людзей на святарскім шляху. Няхай Бог бласлаўляе Вас заўсёды і ўсюды! Шчасці Божа!

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Жалудка*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Этэлю**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Святы Дух апраменьвае сваім святлом кожны дзень Вашай святарскай паслугі, Маці Божая ахінае мацярынскім плашчом, а святы Заступнік заўсёды апекуецца і моцна трымае за руку, суправаджаючы Вас па жыцці. Шчасці Божа!

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з парафіі Гродна-Вішнявец*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Антонію Казлоўскаму**

з нагоды Імянін перасылаем найлепшыя пажаданні. Няхай добры Бог асвятляе Ваш жыццёвы шлях і адорвае мноствам сіл, здароўем ды цярплівасцю. Мы ўдзячны за тое, што Вы з намі, што вядзеце нас да крыніцы дабра, што ўмееце распаліць у сэрцах агонь любові да Езуса і Найсвяцейшай Маці.

*Вернікі з в. Малінавая*

**Дарагі Ксёндз Пробашч Антоній Філіпчык!**

Складаем Вам сардэчныя пажаданні з нагоды Імянін і Дня нараджэння.

Нехай добры Пан Бог з Неба
з Найсвяцейшай Маці Божай
дасць Вам усё,
што толькі трэба,
перш за ўсё, здароўе, можа.
Няхай Духа ўсе дары
на Вас сёння спачываюць,
каб служэннем на зямлі
Вы бляск Неба здабывалі.
Больш за 100 гадоў жывіце,
перамяняйце сэрцы словам.
Хай любоўю Бог асвеціць,
а Марыя – дапамогай.

*Удзячныя сем'і з парафіі св. Вацлава ў Ваўкавыску*

**Паважаны Ксёндз Пробашч Віталій Чурган!**

З нагоды Дня нараджэння сардэчна жадаем Вам моцнага здароўя і поспехаў ва ўсіх справах. Няхай Пан Бог бласлаўляе за нястомную працу і малітву, а Найсвяцейшая Панна Марыя апекуецца Вамі ўсё жыццё.

*Ружанцовае кола НПМ Тракельскай і парафіяне з Юрацішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Уладзіміру Гуляю**

з нагоды Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, радасці, патрэбных Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа і нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай кожны Ваш дзень будзе асветлены праменнямі Божай міласэрнасці, заўсёды хапае сіл для рэалізацыі планаў і намераў, а побач будуць добразычлівыя людзі. Сардэчна дзякуем за адданую душпастырскую працу, адкрытае на кожнага чалавека сэрца, мудрыя і павучальныя казанні.

*Касцёльны камітэт і парафіяне з Ліды-Фары*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Антонію Філіпчыку**

з нагоды Імянін жадаем добрага здароўя на кожны дзень, радасці, сіл, патрэбных для служэння Пану, нястомнай апекі Маці Божай і святога Заступніка, а таксама шчодрых дароў Святога Духа. Шчасці Божа!

*Францішканскі ордэн свецкіх з Ваўкавыска*

**Паважаным Ксяндзу Антонію Абухоўскаму, Айцу Антонію Пажэцкаму, Сёстрам Юліце Пятровай і Паўле Радзівілка**

з нагоды Імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай кожны Ваш дзень будзе напоўнены Божым бласлаўленнем, дарамі Святога Духа і апекай Найсвяцейшай Маці. Няхай здароўе будзе моцным, аптымізм не слабее, а вера, надзея і любоў заўсёды госцяць у сэрцы.

*Вернікі з парафіі Тэалін*

**Паважанай Сястры Антоніі Шэйгерэвіч**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем мноства Божых ласкаў, нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і святога Заступніка, усіх дароў Святога Духа, а таксама добрых і зычлівых людзей побач. Няхай кожны Ваш дзень будзе напоўнены моцай, любоўю, верай і надзеяй на лепшае.

*Вернікі з парафіі Поразава*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Здзіславу Пікулу**

з нагоды Дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, сіл, душэўнага супакою і Божага бласлаўлення на кожны дзень. Пан даў Вам мудрасць і прастату, любоў і сваю апеку. Вы дорыце людзям святло і надзею, вяртаеце да веры. Мы ўдзячны Вам за нястомную душпастырскую працу, абвяшчэнне Божага слова, духоўную апеку, адказнасць, клопат, любоў і павагу да кожнага. Нізкі паклон за шчырую малітву, бязмежную цярплівасць, дабрыню і разуменне.

*З малітвай і павагай Касцёльны камітэт і парафіяне з касцёла Унебаўзяцця НПМ у Дзятлаве*

**Паважанаму Ксяндзу Антонію Грэмзу**

з нагоды Імянін жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, сіл, радасці і душэўнага супакою. Дзякуем за дабрыню, зычлівасць і спагадлівасць, якімі Вы адорваеце людзей. Няхай Бог бласлаўляе Вас і ўдзяляе свае ласкі, а Маці Божая, святы Заступнік і Анёл-ахоўнік дапамагаюць у выкананні душпастырскай паслугі і нястомна трымаюць у сваёй апецы.

*Малітоўная група "Ружанец бацькоў за дзяцей"*

**Паважаны Ксёндз Пробашч Ян Гавэцкі!**

З нагоды Імянін сардэчна жадаем, каб усемагутны Бог бесперапынна адорваў Вас цяплом і ласкай, здароўем і сіламі на доўгія гады, а таксама ўсімі зямнымі дарамі. Жадаем заўсёды чуць толькі словы падзякі за Вашы святарскія заслугі перад Богам і людзьмі. Няхай Марыя атуляе Вас сваёй апекай і вядзе па верным жыццёвым шляху. Вы наш святар, наша надзея і апора. Заўсёды памятаем пра Вас ў малітве.

Шчасці Божа!

*Вернікі з парафіі свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Кучынскаму**

з нагоды Дня нараджэння, Імянін і юбілею святарскіх пасвячэнняў перасылаем букет найлепшых пажаданняў: здароўя, душэўнага супакою, поспехаў ва ўсіх справах, зычлівых людзей побач і стойкасці ў нялёгкай паслузе. Дзякуем за залатыя рукі, за ўсё, што было зроблена ў святыні за гады Вашай працы. Няхай Пан Бог адорвае Вас моцным здароўем, Найсвяцейшая Маці мае ў сваёй апецы, Святы Дух падтрымлівае патрэбнымі ласкамі, а святы Заступнік заўсёды чувае над Вамі.

*З малітвай і павагай удзячныя парафіяне з гродзенскай катэдры*

**Паважанаму Ксяндзу Артуру Ляшнеўскаму**

з нагоды святарскіх пасвячэнняў перасылаем букет сардэчных віншаванняў. Святарства – гэта незвычайны цуд, невычэрпная сіла, светлая і моцная заслона. Бог даў Вам прастату, цярплівасць, любоў і сваю апеку. Жадаем моцнага здароўя, радасці і поспехаў на шляху, які прызначыў Вам Пан і які толькі распачынаецца. Няхай Маці Божая, што даручыла свайго Сына ў Вашы рукі, заўсёды атуляе сваёй любоўю, а Езус бласлаўляе святарскую працу.

*Моладзь, міністранты, дзеці, закрыстыянін Здзіслаў, парафіяне з касцёла св. Міхала Арханёла ў Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Раману Ялоўчыку**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем букет самых сардэчных пажаданняў. Няхай паслуга на ніве Пана прыносіць задавальненне і шчодры плён, а побач заўсёды будуць зычлівыя людзі. Жадаем таксама моцнага здароўя, душэўнага супакою, дароў Святога Духа і Божага бласлаўлення на кожны дзень.

*З малітвай апостальства "Маргарытка" і парафіяне з касцёла св. Міхала Арханёла ў Гнезне*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Радзюку**

з нагоды Імянін жадаем шмат сіл, моцнага здароўя, нязгаснага запалу ў працы, надзеі і апекі святога Заступніка. Няхай Маці Божая разам са сваім Сынам вядуць Вас праз доўгае жыццё, каб хапіла мудрасці і сілы ў фармацыі маладых ксяндзоў. Няхай прыклад Вашага святарства садзейнічае шматлікім пакліканням.

*З памяццю ў малітве вернікі з парафіі св. Юзафа ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Этэлю**

з нагоды Імянін жадаем здароўя, душэўнага супакою, радасці і шчодрага плёну ва ўсіх справах. Няхай кожны дзень будзе багаты на веру, надзею і любоў, якімі Вы шчодра дзеліцеся з вернікамі, добры Бог няхай стала Вас бласлаўляе, Панна Марыя выпрошвае ў Сына неабходныя ласкі, а святы Заступнік заўсёды будзе побач. Дзякуем Вам за ахвярную працу на карысць Богу і людзям, за клопат пра парафіян, добрыя словы і ўчынкі.

*З павагай і ўдзячнасцю Легіён Марыі і малітоўная група Добрага Пастыра з парафіі Божай Міласэрнасці ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Раманоўскаму**

ў Дзень імянін жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, Божага бласлаўлення і людской зычлівасці. Няхай Святы Дух асвячае Ваш шлях праз усе гады душпастырскай працы, Маці Божая дадае сіл, цярплівасці і стойкасці на выбранай дарозе, а Анёл-ахоўнік апекуецца на працягу ўсяго жыцця. Няхай кожны дзень паслугі Богу і людзям прыносіць радасць і задавальненне.

*Ружанцовыя колы, члены Апостальства дапамогі чысцовым душам, Апостальства вечнай малітвы за святароў "Маргарытка" і вернікі з Радуні*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Ігару Анісімаву**

з нагоды Імянін перасылаем самыя шчырыя пажаданні: моцнага здароўя, сіл на доўгія гады жыцця, цярплівасці і Божага бласлаўлення. Няхай Вам шлях будзе сагрэты Богам.

Сегодня праздник –
именины
Для всех нас
доброго ксендза,
Мы стали для него
родными,
Все дети нашего Творца...
Он всем поможет,
всем подскажет,
Кто верит в силу его слов,
Ведь Бог ему
что нужно скажет,
Ведь в нём живёт
Его Любовь.
Родителям Ксендза спасибо!
Что дали жизнь
и воспитали,
Смогли избегнуть
тех ошибок,
Что стать ксендзом
ему мешали.
Являетесь для всех
примером,
Как можно честным
в мире жить,
Как важно дорожить
всем верой,
Как можно вовсе
не грешить...

*Раіса Варонік і парафіяне са Слоніма*

**Паважанаму Айцу Антонію Пажэцкаму**

з нагоды Імянін сардэчна жадаем шчодрых Божых ласкаў: здароўя, спакою, радасці, разважлівасці, моцы ў выкананні святарскай паслугі, дабрыні і надзеі ў сэрцы. Няхай Маці Божая і святы Заступнік нястомна чуваюць над Вамі, а побач заўсёды будуць добразычлівыя людзі.

Шчасці Божа!

*Парафіянкі з касцёла МБ Анёльскай у Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віталію Чургану**

з народы Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, аптымізму, нязгаснага запалу ў душпастырскай працы, мноства цудоўных хвілін на жыццёвым шляху. Няхай Езус Хрыстус бласлаўляе кожны Ваш дзень, Маці Божая ахінае сваёй любоўю і апекай, а Святы Дух шчодра надзяляе дарамі.

*З удзячнасцю сем'і Шчоцкіх і Каспяровіч*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Этэлю**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай св. Ян Хрысціцель – Ваш нябесны заступнік – выпрошвае для Вас у Пана шмат сіл, цярплівасці, здароўя і доўгіх гадоў жыцця. Няхай Бог бласлаўляе, адорвае шчасцем, поспехам і дазваляе радавацца плёну святарскай працы. Шчодрых дароў і моцы Святога Духа, павагі, добрых і зычлівых людзей на жыццёвым шляху!

*Касцёльны камітэт і вернікі з парафіі Божай Міласэрнасці ў Гродне*

**Паважаны Ксёндз Пробашч Антоній Філіпчык!**

З нагоды Імянін і юбілейнага Дня нараджэння жадаем шмат радасці, здароўя, неаслабнага жару духа ў нялёгкай святарскай паслузе. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя ахінае Вас мацярынскай любоўю і апекай, асабліва ў цяжкія хвіліны, і выпрошвае ў свайго Сына ўсе неабходныя ласкі, а высілак змагання са штодзённасцю няхай акрыляе ды дазваляе заўважаць прыгажосць і глыбіню жыцця.

*З павагай касцёльны хор і парафіяне з касцёла св. Вацлава ў Ваўкавыску*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Алегу Жураўскаму і Здзіславу Вэдэру**

з нагоды гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем моцнага здароўя, радасці і поспехаў у душпастырскай паслузе. Няхай Езус Хрыстус ва ўсім Вам дапамагае, Маці Божая ахінае любоўю і апекай, а Святы Дух удзяляе шчодрыя дары. Імкнецеся за Панам з верай і надзеяй, а Вашы сэрцы няхай напаўняе любоў.

*Моладзь, дзеці, міністранты, закрыстыянін Здзіслаў, парафіяне з касцёла св. Міхала Арханёла ў Смаргоні*

**Паважаны Ксёндз Аляксандр Сямінскі!**

Сардэчна віншуем Вас з Днём нараджэння і шчыра жадаем, каб Пан Бог штодзённа адорваў Вас сваімі ласкамі: моцным здароўем, душэўным супакоем, мудрасцю і поспехам у душпастырскай паслузе. Няхай праца на ніве Пана прыносіць задавальненне і шчодры плён, а побач заўсёды будуць добразычлівыя людзі.

*З малітвай апостальства "Маргарытка" з парафіі св. Францішка Ксаверыя ў Гродне*

**Дарагому Ксяндзу Паўлу Эйсманту**

з нагоды 6-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў і надыходзячых Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні, спалучаныя з малітвай: Божага бласлаўлення, апекі Маці Божай і святога Заступніка, добрага здароўя на доўгія гады, шмат сіл і стойкасці, радасці ў сэрцы і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай кожны Твой дзень будзе асвечаны прамянямі Божай міласэрнасці.

*Любячыя бацькі і брат з сям'ёй*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Яну Пузыну і Яну Варанецкаму**

з нагоды Імянін сардэчна жадаем моцнага здароўя, сіл і нястомнасці ў служэнні Богу і людзям, шчырых вернікаў побач, поспехаў у ажыццяўленні ўсіх планаў і задум. Няхай міласэрны Бог атуляе Вас усімі неабходнымі ласкамі, а Найсвяцейшая Панна Марыя асвятляе шлях прамянямі сваёй любові. Мы вельмі ўдзячны Вам за шчырую працу на Божай ніве, за духоўную апеку, клопат і ўвагу да кожнага, хто шукае Божай падтрымкі.

*З павагай парафіяне з Ашмянаў*

**Паважаным Айцу Валерыю і Сястры Антоніі Шэйгерэвіч**

у сувязі са смерцю мамы перасылаем словы шчырага жалю і спачування. Няхай міласэрны Бог як мага хутчэй прыме душу памерлай у свае Валадарства.

*Вернікі з парафіі Поразава і Тацяна з Мінска*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Алена Гальчэня; тэл. **(80152) 75-64-38; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 2686; тыраж 5045; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная